№3(31) сакавік 2000

# ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Інфармацыйны бюлетэнь






НАЛОГИ НАШИ



# ЗАЧИСТКА "третьего сектора"?

Владимир КАЦОРА

Совершенно неожиданно, но вполне закономерно, завершилось "дело" о так называемой непродаже валюты Гомельским областным общественным объединением "Гражданские инициативы".

Придя в областной Хозяйственный суд на назначенное заседание по своему иску на неправомерные действия налоговой инспекции, представители объединения "Гражданские инициативы" узнали, что вопроса, вроде бы как и не существовало.

На сухом языке определения суда это звучит так: "Представителем ответчика в судебное заседание представлено решение инспекции ГНК по г.Гомелю от 20.03.2000 г. об отмене решения от 15.02.2000 г. № 1 о применении к Гомельскому областному общественному объединению "Гражданские инициативы" экономических санкций по акту проверки от 4.02.2000 г. в сумме 3172,80 дол. США". Поэтому суд производство по делу прекратил, а также принял решение возвратить истцу - объединению "Гражданские инициативы" из республиканского бюджета госпошлину в сумме 22 млн. руб.

Казалось бы - справедливость восторжествовала. Но... Но остались как и вопросы, так и последствия этих так называемых проверок.

Прежде всего необходимо отметить, что проверка носила явно заказной характер и проводилась по приказу областной налоговой инспекции. Были заданы очень жесткие сроки проверки — 2 дня.

Решение о наложении штрафных санкций было принято 15 февраля, но как явствует из решения о последующей отмене, на момент наложения санкций сами налоговики сомневались в своей правоте, т.к. направили запрос в Минфин РБ и уже 18 февраля (!) получили разъяснение, что общественные организации не должны производить обязательную продажу валюты. Но еще больше месяца не хотели признавать своей "ошибки" и на возражения объединения "Гражданские инициативы" в городскую налоговую службу и последующую жалобу в областную налоговую инспекцию твердили: "наказаны правильно". К тому же, зная, что объединение "Гражданские инициативы" подает в суд, все же направили обслуживающему банку инкассовое распоряжение, согласно которому с рублевого расчетного счета были списаны в счет погашения штрафа 44 млн. руб.

Но и сегодня, признав уже и перед судом свою неправоту, налоговая инспекция не отозвала из банка свое распоряжение и расчетный счет остается заблокированным, а взысканная сумма не возвращена. Остается пока без ответа со стороны налоговых органов и письменный протест объединения на, мягко говоря, бездействие налоговиков по исправлению своей ошибки.

Явно они выжидают, а при устных объяснениях дают понять, что проверка еще не закончена, что они сомневаются, правильно ли объединение "Гражданские инициативы" работало с курсовой разницей (но и признают, что и сами не знают, как надо с ней работать, поэтому, якобы, сделали очередной запрос), намекают также, что средства гранта использовались не по назначению, и т.д. Кроме как откровенным шантажом и вымогательством такие действия назвать нельзя.

А между тем, ситуация получила значительный резонанс в общественных кругах Беларуси, среди международных организаций.

Достаточно отметить, что более 60 белорусских НПО подписали заявление о солидарности с объединением "Гражданские инициативы", а Консультационно-Наблюдательная Группа ОБСЕ даже направила на судебное заседание своих представителей.

ЧТО? ГДЕ? КОГДА?



## Молодежь против наркотиков

*25 марта в Гомельском дворце культуры и спорта химзавода состоялась акция "Молодежь против наркотиков" в рамках долгосрочного проекта молодежной организации "Гражданский форум" при поддержке фонда Counterpart Alliance for Partnership.*

*Гомель уже второй по счету город, где проходит акция, а стартовал проект в Могилеве. Помимо музыкальной части, порадовавшей любителей хип-хопа, перед концертом прошел семинар с участием нарколога. Хотелось бы отметить также, что проводимая акция помогает молодым найти друг друга.*

*Кроме областных выступлений намечен грандиозный фестиваль в столице, на который приедут команды из России, Украины, Венгрии. Помогая развитию молодежной субкультуры в Беларуси, "Гражданский Форум" предлагает молодежи альтернативу наркотикам.*

Пресс-служба "Гражданского форума"



Віктар Карнеенка: "Усёж-такі сумесная праца хутчэй чым светапогляд робіць аднадумцаў калегамі і партнерамі..."

NGOs: РАЗАМ ЛЕПШ

# Ад рэдакцыі

*У апошні час відавочны вялікі інтарэс розных уладных установ да дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў. Ініцыіраваная прэзідэнтам перарэгістрацыя, змены ў заканадаўстве значна пагоршылі ўмовы працы ў трэцім сектары. Жаданне рэжыму ўзяць пад жорсткі кантроль усе грамадскія працэсы можна зразумець так: толькі Лукашэнка ці яго прызначэнцы па вертыкалі маюць права на дазвол рабіць грамадска-карысныя справы. Калі, напрыклад, пяць суседзяў вырашылі пасадзіць у сваім двары дрэўцы, ім трэба знайсці яшчэ столькі ж добраахвотнікаў, напісаць статут, заплаціць немалыя грошы ў бюджэт за рэгістрацыю, знайсці юрыдычны адрас, падаць стос неабходных папер у органы юстыцыі, дачакацца іх рашэння на дазвол дзейнасці. Калі не верыце — пачытайце беларускае заканадаўства. І вы пераканаецеся, што толькі дзесяць (і ніяк не менш!) асобаў могуць стварыць грамадскае аб'яднанне. А дзейнасць незарэгістраваных ініцыятыў у Беларусі забаронена. Больш таго, пра дзейнасць такіх структур забаронена нават паведамляць у любым друку, і для парушальнікаў гэтых патрабаванняў прадугледжана сур'езнае пакаранне. Калі пры гэтым прэзідэнцкія памагатыя будуць заяўляць, што так робіцца "ва ўсім цывілізаваным свеце", яны заведама кажуць няпраўду.*

*У цывілізаваных краінах фактар рэгістрацыі патрэбны грамадскаму аб'яднанню толькі для добраахвотнага ўскладання на сабе абавязкаў юрыдычнай асобы. Тады можна мець юрыдычны адрас, рахунак у банку, займацца гаспадарчай дзейнасцю, збіраць членскія ўзносы, ахвяраванні, мець агульную маемасць і г.д. Але чаму несанкцыянаванае ўладай развядзенне кактусаў некалькімі асобамі ці іх сумеснае абмеркаванне праблем экалогіі, самакіравання, праў чалавека па вызначэнню з'яўляецца злачынствам ? Чаму чалавек на сваім уласным кампутары без дазволу ўлад не мае права бясплатна навучаць жадаючых карыстанню сучаснымі тэхнічнымі сродкамі?*

*Як і большасць з вас, я не думаю, што прэзідэнцкія кантралеры, КДБ, міліцыя пачнуць "адлоў" незарэгістраваных аматараў кактусаў. Хутчэй за ўсё пачнуць не з іх. Але цынізм улады якраз і заключаецца ў паступовай, а не аднамаментнай ліквідацыі структур грамадзянскай супольнасці. У таталітарным грамадстве няма месца ніякім ініцыятывам знізу. Таму ў Беларусі іх і знішчаюць перарэгістрацыямі-зачысткамі, антыдэмакратычнымі законамі, паклепніцкімі кампаніямі ў кішэнных СМІ. Гэта патрабуе кансалідацыі трэцяга сектара краіны для эфектыўнага адстойвання сваіх сумесных правоў. Тэме супрацоўніцтва і каардынацыі дзеянняў грамадскіх аб'яднанняў сення прысвячаюцца некаторыя матэрыялы нашага бюлетэня.*

# Абласная Рада вырашыла

**29 САКАВІКА** адбылося паседжанне Рады абласной Асамблеі няўрадавых арганізацый.

Як вядома, беларускае заканадаўства не дазваляе дзейнасці незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, таму пытанне рэфармавання старой кааліцыі сёння вельмі актуальна. Фактычна гэта адзіная праблема абмяркоўвалася Радай.

Алесь Мазур, старшыня Выканаўчага бюро Нацыянальнай Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый, паведаміў аб тым, што створаны арганізацыйны камітэт па легалізацыі Асамблеі. Ён агучыў усе паступіўшыя арганізацыйныя і іншыя прапановы, звязаныя з гэтым.

Пасля абмеркавання сітуацыі Рада прыняла наступныя рашэнні:

***1. Асамблея неабходна як структура для абароны інтарэсаў "трэцяга сектара".***

***2. Аб'ядноўваючымі прынцыпамі Асамблеі павінны застацца:***

***незалежнасць і суверэнітэт Беларусі;***

***павага да правоў чалавека;***

***садзейнічанне развіццю рынкавай эканомікі;***

***шанаванне беларускай культуры.***

***3.Мясцовыя Асамблеі ствараюцца фізічнымі асобамі па прадстаўніцтву грамадскіх арганізацый. Нацыянальную Асамблею ствараюць зарэгістраваныя мясцовыя Асамблеі як Аасацыяцыі, ці Саюз. У любым выпадку пры разглядзе іншых схем неабходна ўлічваць інтарэсы незарэгістраваных арганізацый.***

***4. Накірункі дзейнасці Асамблеі вызначыць пасля правядзення анкетавання.***

***5. Паведаміць усім сябрам абласной Асамблеі аб прынятым рашэнні.***

**Віктар КАРНЕЕНКА,**
**старшыня Гомельскага абласнога аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы"**

# ЯКОЙ БЫЦЬ АСАМБЛЕІ?



Створаная тры гады таму буйнейшая ў Беларусі кааліцыя няўрадавых арганізацый выканала некалькі важных функцый. У першую чаргу, гэта кансалідацыя на падставе прынцыпаў суверэнітэту нашай дзяржавы, павагі да правоў чалавека і рынкавай эканомікі значнай часткі актыўнага грамадства. Некаторыя здзейсненыя ў межах Асамблеі нацыянальныя кампаніі (кшталту "SOS NGOs") дазволілі многім адчуць падтрымку калег і даюць надзею верагоднасці распрацоўкі рэальных механізмаў эфектыўнай калектыўнай абароны ад агрэсіі ўладаў у дачыненні да трэцяга сектару.

Лічу, што мяккія формы каардынацыі дзеянняў кшталту клубаў, круглых сталоў, правядзення штогадовых фэстаў могуць сабе дазволіць толькі нашыя калегі ў дэмакратычных краінах. У нас абсалютна іншыя ўмовы і сітуацыя. Час паказвае, што старыя арганізацыйныя формы дзейнасці Асамблеі не адпавядаюць патрэбам сенняшняга дня. Нельга па-сапраўднаму аб'яднацца толькі паводле прынцыпаў. Усёж-такі сумесная праца хутчэй чым светапогляд робіць аднадумцаў калегамі і партнерамі. Гэта, канешне, пры ўмове (а я перакананы, што гэта так), калі Асамблея аб'ядноўвае не тактычных



*"Апошні аргумент супраць фармальнай легалізацыі Асамблеі ў тым, што часцей за ўсе з цягам часу любая адміністрацыйная структура пачынае дзейнічаць зыходзячы выключна са сваіх уласных інтарэсаў..."*



◄◄◄

спадарожнікаў ці сябраў па няшчасцю, а стратэгічных партнераў, якія гатовыя разам працаваць дзеля ўсталявання вышэйузгаданых прынцыпаў.

Як мінімум, Асамблея павінна рабіць маніторынг парушэння правоў сваіх сябраў, ствараць камісіі па расследванню фактаў уціску, мець рэальныя магчымасці юрыдычнай дапамогі па любых праблемах дзейнасці NGO, узаемадзейнічаць са сродкамі масавай інфармацыі.

Трэба таксама ўлічваць апошнія змены ў заканадаўстве, якія пагоршылі ўмовы для рэалізацыі грамадскіх ініцыятыў. Чаго варта толькі забарона дзейнасці незарэгістраваных аб'яднанняў, ці нават паведамлення ў прэсе пра іх дзейнасць.

У рэшце рэшт, чаму мы павінны дазваляць рэжыму такую раскошу, як выштурхнуць самую буйную кааліцыю за межы прававога поля ? Лічу, што тыя мае калегі, якія прапаноўвалі легалізаваць Рабочую Групу, улічвалі і гэта.

Але ў такіх выпадках звычайна з'яўляецца спакуса вырашыць справу лёгкім шляхам. Напрыклад, дзесяць найбольш паважаных сябраў Асамблеі фармальна заснуюць новую арганізацыю-правапераемніцу былой кааліцыі. Пры гэтым здаецца, што ўсе мы будзем памятаць пра тое, што за спінамі гэтай дзесяткі шырокі фронт з сотняў структур. Але ці будзе так на самой справе?

Есць другая канцэпцыя, калі пасля "рэвізіі" усіх сябраў Асамблеі па адной асобе ад кожнай арганізацыі створаць новае рэспубліканскае няўрадавае аб'яднанне з мэтамі былой Асамблеі. Але ў такім выпадку няма гарантыі, што новая структура не стане адной з самых звычайных рэспубліканскіх арганізацый. Нават з фармальнага боку яна не будзе мець права прадстаўляць нейкую частку беларускага "трэцяга сектара".

Прапанаваная камбінаваная мадэль вылучэння ў заснавальнікі па профілю і тэрыторыі дзейнасці арганізацый, пры ўсёй прывабнасці не можа лічыцца справядлівай, так як адна арганізацыя можа мець неабмежаваную колькасць галасоў. Гэта будзе спрыяць стварэнню "фантомаў" і можа справакаваць сур'езны ўнутраны канфлікт.

Апошні аргумент супраць фармальнай легалізацыі Асамблеі ў тым, што часцей за ўсе з цягам часу любая адміністрацыйная структура пачынае дзейнічаць зыходзячы выключна са сваіх уласных інтарэсаў, падмяняючы сабой усю арганізацыю.

Менавіта таму я лічу, што любая мадэль, калі нацыянальную кааліцыю ствараюць фізічныя асобы, нават с паўнамоцтвамі на гэта ад сваіх арганізацый, – непрымальная. Такая структура па вызначэнню не можа быць кааліцыяй. У лепшым выпадку гэта каардынуючы сумесную працу інстытут, ці трывіяльная рэспубліканская няўрадавая арганізацыя. А ў горшым можа атрымацца звычайная бурбалка. Разам з тым, мы не маем права пакінуць "паза бортам" незарэгістраваныя ініцыятывы, а тым больш калег, якія не здолелі прайсці гэтую працэдуру з-за жорсткасці улад. Я лічу, што ўсе яны павінны на роўных уваходзіць у кааліцыю, мець там аднолькавыя з усімі правы і абавязкі.

Прапаную для абмеркавання адзін з варыянтаў стварэння сапраўднай, а не фармальнай кааліцыі. Разумею, што гэта праца вельмі няпростая, зойме шмат часу, сустрэне супраціў улад. Распачынаць яе есць сэнс толькі тады, калі гэтую ідэю падтрымлівае абсалютная большасць заснавальнікаў як у сталіцы, так і ў рэгіенах. Але гэта шанец на сапраўдную кансалідацыю, праверка сваіх арганізацыйных рэсурсаў, спроба актывізацыі грамадства на перыферыі.

**Арганізацыйныя прапановы па стварэнню Асамблеі:**

**1.** Праводзіцца анкетаванне ўсіх арганізацый (як зарэгістраваных, так і незарэгістраваных), што заснавалі Асамблею ці далучыліся да яе падчас дзейнасці да гэтага часу, у выніку чаго падцвярджаецца сяброўства ў кааліцыі. Захаваць сяброўства маюць права ўсе структуры, што раней уваходзілі ў Асамблею, незалежна ад профіля дзейнасці, вынікаў перарэгістрацыі і г.д. Выключнымі патрабаваннямі да арганізацый-сяброў кааліцыі з'яўляюцца наступныя:

– згода з першаснымі прынцыпамі, на якіх была створана кааліцыя;

– наяўнасць статуту, дзе закладзены мэты, задачы, тэрыторыя і прынцыпы дзейнасці арганізацыі;

– спіс заснавальнікаў арганізацыі;

– пратакол упаўнаважанага органа арганізацыі аб уступленні ў кааліцыю;

– асоба, якой даверана выконваць прадстаўнічыя функцыі ў Асамблеі;

**2.** У адпаведнасці з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам ствараюцца рэгіянальныя ініцыятыўныя групы па падрыхтоўцы і правядзенню ўсіх арганізацыйных мерапрыемстваў. Мінімальны неабходны ўзровень рэгіяналізацыі – вобласці і горад Менск. Паралельна існуючая рабочая група распрацоўвае агульны для ўсіх рэгіенаў Статут, які будзе абмяркоўвацца ў рэгіенах, асобных арганізацыях і г.д. Заўвагі і прапановы накіроўваюцца ў дзеючую сення Рабочую Групу, якая і зацвярджае канчатковы варыянт.

**3.** Ствараюцца рэгіянальныя Асамблеі, заснавальнікамі якіх стануць па аднаму прадстаўніку ад кожнай арганізацыі-сябра, незалежна ад яе юрыдычнага статуса, профіля дзейнасці і г.д. Пры гэтым выконваюцца ўсе патрабаванні заканадаўства па стварэнню мясцовых грамадскіх аб'яднанняў (кожная абласная павінна мець прадстаўнікоў з большасці раенаў, іх павінна быць не менш за 10 і г.д.). Адначасова ўсе рэгіянальныя Асамблеі падаюць дакументы на рэгістрацыю ва ўпраўленні юстыцыі аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама. Такіх рэгіянальных арганізацыяў можа быць больш чым 7, калі ў нейкім раене есць 10 альбо больш арганізацыяў-сябраў. На тых жа ўмовах могуць стварацца міжраенныя рэгіянальныя аб'яднанні.

**4.** Створаныя паводле п.3 фактычна фізічнымі асобамі, але за якімі стаяць рэальныя арганізацыі, грамадскія аб'яднанні маюць адзіную назву, адзіны статут, што дазваляе ім стварыць нацыянальную Асацыяцыю "Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацый".

Падчас правядзення ўсіх гэтых арганізацыйных мерапрыемстваў дзейнічае галоўны каардынацыйны орган – Рабочая Група, якая і будзе вырашаць усе праблемныя пытанні, у тым ліку і штучна ствараемыя ўладамі.

***P.S. Можна дадаць, што на розных узроўнях абмеркавання вышэйазначаных праблем прагучалі яшчэ мінімум дзве прапановы:***

***– Надалей працягваць работу Асамблеі без рэгістрацыі;***

***– Зарэгістраваць Асамблею як саюз ці асацыяцыю, заснавальнікамі якіх стануць усе зарэгістраваныя грамадскія аб'яднанні са статусам юрыдычнай асобы, што раней уваходзілі ў кааліцыю.***

*Барыс Звозкаў: "...Уводзіцца кантроль з боку КРК і Назіральнай Рады над працай Праўленьня і Выканаўчага бюро..."*

NGOs: РАЗАМ ЛЕПШ

# ПРАПАНОВЫ
## па легалізацыі Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі

(Варыянт прапанаваны старшыней арганізацыйнага камітэта Барысам Звозкавым)

**ЗАДАЧЫ**

**1.** Легалізаваць Рабочую групу Асамблеі, атрымаць для яе статус юрыдычнай асобы.

**2.** Захаваць прынцып добраахвотнога ўваходжаньня ў склад Рабочай групы (РГ) з прымяненьнем працэдуры ўзгадненьня з арганізацыямі-ўдзельніцамі Асамблеі на абласным і рэспубліканскім узроўні (г.зн.добраахвотнасьць + падтрымка з боку калег зь іншых NGOs ці своеасаблівая выбарнасьць чальцоў РГ).

**3.** Стварыць афіцыйныя (у рамках Асамблеі) органы кантролю і выкананьня.

**4.** Пацьвердзіць магчымасьць свабоднага ўдзелу ў паседжаньнях РГ прадстаўнікоў любых арганізацыяў-чальцоў Асамблеі з правам дарадчага голасу.

**ЗЬДЗЯЙСЬНЕНЬНЕ**

**1.** Правесьці чарговае паседжаньне Рабочай групы Асамблеі.
а) Абмеркаваць прапановы па арганізацыйным рэфармаваньні Асамблеі;
б) Стварыць дзейны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні III Асамблеі з разьмеркаваньнем абавязкаў.

**2.** Правесьці сходы абласных Асамблеяў з выбраньнем чальцоў РГ (па 5 ад кожнай вобласьці і г.Менску).

**3.** Правесьці III Асамблею (рэспубліканскі сход прадстаўнікоў NGOs).

**4.** Выбраць старшыню РГ і другую палову чальцоў РГ (35 чалавек; пажадана выконваць парытэт – па 5 чал. ад кожнай вобласьці і г.Менску).

**5.** Выбраныя чальцы РГ (усяго 70 чал.) у адпаведнасьці з Законам "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" засноўваюць РГА "Асамблея" (2 ўмоўная), прымаюць Статут, выбіраюць Праўленьне, Назіральную Раду, Кантрольна-рэвізійную камісію. Прызначаецца (выбіраецца) выканаўчы дырэктар, які рыхтуе для праўленьня прапановы па складзе Выканаўчага бюро. У Статуце РГА павінны быць:
а) улічаны прынцыповыя палажэньні дзейнага Рэгляменту РГ;
б) прадугледжана магчымасьць для кожнай асацыяцыі (па тэматычных накірунках) прамога дэлегаваньня свайго прадстаўніка ў склад РГ (гл.прапановы Т.Пашэвалавай у Бюлетэні № 11 (20) Асамблеі).

**6.** Праўленьне фармуецца з чальцоў РГА "Асамблея" на падставе добраахвотнага абавязку "цягнуць" той ці іншы ўчастак працы – таксама, як фармавалася сёньняшняя РГ.

**7.** Члецтва ў РГА – часовае, да чарговай Асамблеі. Па выніках чарговай Асамблеі выбраны паўторна чалец РГА "Асамблея" захоўвае сваё члецтва, невыбраны паўторна - выбывае, а зноўку выбраны – становіцца паўнапраўным чальцом РГА.

**НАШТО ГЭТА ЎСЁ**

– Далейшая дзейнасьць РГ (у выглядзе РГА "Асамблея") праводзіцца ў рамках закону;

– Уводзіцца кантроль з боку КРК і Назіральнай Рады над працай Праўленьня і Выканаўчага бюро;

– Дэманстрацыя нашых здольнасьцяў гнуткай рэакцыі на абставіны;

– Узмацненьне пэрсанальнай адказнасьці і памяншэньне калектыўнай абыякавасьці да лёсу Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі.

**ДАДАТАК.** Можа, з улікам працягласьці працэдуры выбараў на рэспубліканскай Асамблеі (трэба выбраць 35 чалавек; а кандыдатаў можа быць значна больш – ёсьць рызыка ня ўкласьціся ў адзін дзень), на абласных выбіраць не па 5, а па 6-7 чалавек. Тады на Асамблеі трэба будзе выбраць не 35, а 28-21.

ЧТО? ГДЕ? КОГДА?



### "Беларускі гістарычны агляд" у Гомельскім універсітэце

Акім ЗАГОРСКІ

*На гістарычным факультэце ГДУ імя Ф.Скарыны 9 сакавіка адбылася прэзэнтацыя прызнанага сярод прафэсіяналаў і аматараў абшараў Кліо навуковага часопісу "Беларускі гістарычны агляд" з удзелам галоўнага рэдактара Генадзя Сагановіча. Для шматлікай студэнцка-выкладчыцкай аўдыторыі (больш 100 чал.) прагучаў цікавы і пазнавальны аповед пра 5-гадовы шлях "БГА", розныя находы і здабыткі.*

*Для ахвотных была магчымасць прыдбаць юбілейны і папярэднія нумары часопісу, вядомую кнігу "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Падчас дыскусіі на пярэстыя пытанні даваліся кампэтэнтныя і нязмушаныя адказы. Па заваршэнні імпрэзы – цёплая бяседа выкладчыкаў-знаёмцаў, "даніна" аўтографамі ўдзячнай публіцы.*

*Напрыканцы, хіба што нясьціплая заўвага – мерапрыемства ладзіў Цэнтар "Яравіт", адзін з прыярытэтаў якога – асьветніцкая і навукова-дасьледніцкая дзейнасць.*


Вінцук Вячорка, старшыня рабочай групы Асамблеі.



# Гродна – Магілёў – Гомель – ...

Алег КРАСНАПОЛЬСКІ

Паседжанне "круглага стала" беларускіх рэсурсных цэнтраў адбылося 31.03.2000 – 1.04.2000 на базе Гомельскага абласнога грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы". Як і звычайна на такіх традыцыйных сустрэчах, арганізацыя-гаспадар азнаеміла калег з вопытам сваёй працы. Старшыня "Грамадзянскіх ініцыятыў" расказаў аб гісторыі стварэння аб'яднання, геаграфіі прадстаўніцтва, структуры арганізацыі. Гасцей вельмі цікавілі моманты, звязаныя з унутранай дэмакратыяй арганізацыі і працэдуры вырашэння пытанняў.

У "Грамадзянскіх ініцыятывах" агульная канферэнцыя збіраецца фактычна кожны год. Яна абірае праўленне, старшыню і яго намесніка, а таксама кантрольна-рэвізійную камісію. Праўленне зацвярджае праграмы аб'яднання, якіх, як вядома, сення чатыры :

– "Партнерства" (тэхнічная, кансультацыйная, экспертная і іншая дапамога партнерскім арганізацыям);

– "Лідэр" (стварэнне базы дадзеных грамадскага актыву і навучанне кіраўнікоў арганізацый);

– "Моладзь" (усебаковая дапамога і падтрымка таленавітай моладзі Гомельшчыны);

– "Выдавецкі цэнтр" (падтрымка незалежных рэгіянальных СМІ, бюлетэняў і выдавецкіх ініцыятыў);

Зразумела, што не ўсе ў працы аб'яднання атрымліваецца гладка. Так, зацверджаныя некалькі раней праграмы "ГРЭІС" (Гомельскія рэгіянальныя электронныя інфармацыйныя сеткі) і "Чарнобыль – новыя перспектывы" сення па розных прычынах не працуюць.

Значную ролю ў дзейнасці аб'яднання адыгрывае Экспертна-аналітычная рада. Акрамя даследвання праблем развіцця грамадскага руху на Гомельшчыне, яна вырашае дастаткова канкрэтныя праблемы: сацыялагічныя пытанні, арганізацыя круглых сталоў мясцовых навукоўцаў, правядзенне адукацыйных мерапрыемстваў.

Уражвае спіс партнераў "Грамадзянскіх ініцыятыў" – іх больш за 70 ў рэгіене, і каля 20 у Беларусі і за яе межамі.

Шматлікія пытанні да старшыні аб'яднання і каардынатараў праграм сведчылі аб вялікай цікавасці да дзейнасці аб'яднання з боку калег з іншых рэгіенаў краіны.

Другая палова мерапрыемства была прысвечана абмеркаванню праблем, звязаных з рэформамі Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацый. Галоўнай дзеючай асобай у гэты час стаў Вінцук Вячорка, старшыня рабочай групы Асамблеі.

Падчас размоў можна было заўважыць розны погляд на перамены ў кааліцыі ў прадстаўнікоў сталічных і рэгіянальных аб'яднанняў. Гарачыя, але вельмі карэктныя спрэчкі скончыліся аўтарскім канцэртам вядомага беларускага барда Андруся Мельнікава.

Чарговае аналагічнае мерапрыемства з удзелам рэгіянальных і сталічных рэсурсных цэнтраў адбудзецца ў Віцебску ў наступным месяцы.



Атмасфера на "круглых сталах" рэсурсных цэнтраў звычайна вельмі цёплая і сяброўская. Не стаў выключэннем і "круглы стол" у Гомелі



СЛАДКОЕ СЛОВО "СВОБОДА"

*Дэйвид Эверетт, "Детройт Фри Пресс": "Для того, чтобы стать хорошим журналистом, какого-нибудь единого рецепта не существует... Хороших репортеров и редакторов объединяет одно: глубокое понимание журналистского дела...".*

# БОЛЬШИЕ газеты вырастают из маленьких

## Четырехдневный семинар для журналистов независимой местной прессы провел в Гомеле фонд IDEE

СЕМИНАРЫ



Александр ИРТЕНЬЕВ



С 23 по 26 марта 20 журналистов из Гомеля и области, представляющие в основном т.н. "малую прессу" – небольшие газеты и бюллетени – учились тому, как решать насущные проблемы своих изданий. Учились у профессионалов, тех, кто уже не один год работает в СМИ и по собственному опыту знает ответы на многие вопросы.

Первые два дня семинара знаниями делился обаятельный Марек Грахольский, редактор еженедельника "Тыгодник Подхалански" из польского Закопане. И хотя масштаб его издания (50-80 полос формата А-3, полноцветная печать) трудно сравнить с тем, что выпускается на Гомельщине, выступления польского специалиста вызвали большой интерес и комплименты со стороны слушателей.



Игорь Германчук



Моника Панфил

А рассказывал Марек Грахольский об истории независимой прессы в Польше, об организационной структуре издания, о принципах существования независимой прессы в демократических условиях, о "хитростях" привлечения внимания читателей, о рационализации журналистского труда, о борьбе за рекламу и еще многом и многом другом, несомненно, не просто интересном, а полезном для аудитории.



Елена Равбецкая



Иоанна Ковальска

Марек также высказал готовность продолжить для желающих начатое в Гомеле обучение уже в Польше, в его родной газете. Возможно, это отличная идея для следующего проекта IDEE!

С повышенным вниманием и интересом слушали семинаристы другого лектора – Игоря Германчука, не нуждающегося в дополнительном представлении экс-редактора "Свабоды", а ныне редактора нового журнала "Кур'ер". На примере "Свабоды", волею судеб самой гонимой газеты в стране, Игорь рассказывал о тактике и стратегии издания в экстремальных ситуациях. Разумеется, он не мог не поделиться и творческим журналистским опытом, заострив внимание на поиске темы, новости, проработке газетного материала.

Правовед из Польши Моника Панфил щедро



►►►



*Дмитрий Бартосик: "...Стаял разняшчасный таварышч Сапега на длинном и скользким пути..."*

# СЛАДКОЕ СЛОВО "СВОБОДА"



снабдила семинаристов базовой информацией для журналистов по правам человека. Время показывает, что без этих знаний журналист часто либо "изобретает велосипед", либо теряется при исследовании различных проблемных ситуаций.

Актуальным и сверхполезным стал последний день семинара, когда слово взяла Елена Равбецкая, главный редактор гродненского независимого еженедельника "Биржа информации". Газета эта издается на 8 полосах формата А-3 и тиражом свыше 8 тысяч экземпляров. Но самое примечательное в ней то, что даже в наших печальных экономических условиях она умудряется быть прибыльной и довольно успешной. О том, как это им удается и рассказала Елена внимательной аудитории.

Много сил и энергии потратила сотрудник фонда IDEE и один из организаторов семинара Иоанна Ковальска на проведение занятий интерактивными методами. Ролевые игры разнообразной и злободневной тематики оживили процесс обучения и содействовали его эффективности.

В несомненную заслугу организаторам можно поставить и то, что в напряженном графике семинара нашлось место для культурной программы: новыми и старыми песнями порадовал собравшихся известный белорусский бард Дмитрий Бартосик.

Остается добавить, что проводился семинар на базе общественного объединения "Гражданские инициативы", чем организаторы и участники, по их признанию, остались весьма довольны.



*Марек Грахольский (слева) руководит изданием, о котором белорусские журналисты пока могут только мечтать. "Еще лет десять назад, — признается польский журналист, — я бы сам не поверил, что скоро уровень нашей прессы так головокружительно повысится...". Будем оптимистами?*

СЕМИНАРЫ



## Ребенок имеет право

**Василий ПОЛЯКОВ**

*В настоящее время инициативная группа по созданию общественного объединения "Гомель - наш город" работает над проектом "Правовая образовательная программа". В рамках данного проекта подготовлено и издано, при технической поддержке объединения "Гражданские инициативы", пособие по разделу "Права человека" в рамках школьного курса "Человек и общество". В разработке пособия приняли участие как руководители проекта, так и учащиеся городского лицея № 1. Данное пособие распространено во все школы г.Гомеля (организационная помощь была оказана горметодцентром).*

*12 марта прошел семинар для учащихся 10-11 классов "Права человека- права ребенка". Участники семинара проявили живой интерес к обсуждаемым проблемам. Наиболее острые дискуссии развернулись при обсуждении возрастного ценза некоторых политических прав.*

*29 марта был проведен семинар "Современная концепция прав человека и прав ребенка" для учителей истории школ г.Гомеля. Испытывая недостаток в литературе по правам человека, участники семинара выразили свою благодарность руководителям проекта за изданное пособие и содержательные лекции.*

*Работа над проектом будет завершена в июне 2000 г.*

ВЕК УЧИСЬ

*Сустрэча праваабарончых арганізацый вобласці з прадстаўнікамі "Amnesty International" з Лондана...*

*Как уже неоднократно отмечалось в нашем бюллетене, ряд общественных групп создали областной Координационный совет по проведению наблюдения за ходом предстоящей в этом году избирательной кампании. Решено, что в Гомеле эта работа будет проводиться на базе объединения "Гражданские инициативы". Впереди создание координационных советов в районах области, подбор и обучение наблюдателей. На снимке: на очередном заседании Координационного совета 9 марта.*

*Соб. инф.*



# Всё о выборах

**Александр ЗАЙЦЕВ**

Семинар "Право на выбор сегодня – право на жизнь завтра", проведённый в рамках проекта Гомельского отделения Фонда имени Льва Сапеги, прошёл 12 марта в Речице. Участие в семинаре приняли представители неправительственных общественных объединений города и члены различных партий.

Участникам семинара было интересно выслушать доклад доцента Гомельского госуниверситета им. Ф.Скорины Игоря Немкевича о различных международных актах в области избирательного права и международных документах, подписанных и ратифицированных Беларусью.

Журналист Александр Шкут рассказал об использовании СМИ в избирательных процессах в различных странах мира.

Заместитель председателя общественного объединения "Гражданские инициативы" Владимир Кацора поднял вопросы наблюдения за выборами и использования различных технологий наблюдения. По результатам анкетирования участников мероприятия, семинар получил высокую оценку.



Информационный бюллетень объединения "Гражданские инициативы". Центр поддержки NGOs по Гомельской области.
Редактор Александр ШКУТ.
Редколлегия: Юрий ВОРОНЕЖЦЕВ, Виктор КОРНЕЕНКО, Виктор ВЛАДЫМЦЕВ, Галина СКОРОХОД.
Тел./факс (0232) 55 93 71
Тираж 299 экз.
Издается при технической поддержке Фонда Counterpart Alliance

КОНТАКТЫ



# Amnesty International у Гомелі

**Галіна СКАРАХОД**

*Тысячы людзей кінуты ў турмы за сваe перакананні. Многія пазбаўлены волі без прадастаўлення абвінавачвання ці суда. Шырока прымяняюцца катаванні і смяротная кара. Мужчыны, жанчыны і дзеці "знікаюць" у выніку ўзяцця пад варту. Другія караюцца смерцю без усялякай відавочнай законнасці -- абраны і знішчаны урадам і яго агентамі...*

*Гэтыя парушэнні, уласцівыя і нашаму аўтарытарнаму рэжыму, а таму патрабуюць міжнароднай рэакцыі. Менавіта для гэтага існуе незалежная міжнародная арганізацыя -- "Amnesty International".*

*Не выпадкова, што такая арганізацыя ўзнікла і на Гомельшчыне, дзе развязана кампанія паклепу і вынішчэння вядучых няўрадавых грамадскіх арганізацый і прыватных асоб, якія удзельнічаюць у акцыях пратэсту супраць існуючага самавольства.*

*17 сакавіка адбылася сустрэча праваабарончых арганізацый вобласці з прадстаўнікамі "Amnesty International" з Лондана. Яны абмеркавалі становішча з парушэннем правоў чалавека на Гомельшчыне і вызначылі магчымыя накірункі сумеснай дзейнасці. Дарэчы, арганізатарам гэтага мерапрыемства была нядаўна створаная ў Гомелі група "Amnesty International".*

*Праходзіла сустрэча на базе абласнога грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы".*